*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 20 (559) 29 ТРАЎНЯ 2002 г.

## Плашчаніца ў Чырвоным касцёле



5 траўня ў Менску прйшоў урачысты ўнос у касцёл Святых Сымона і Алены фотакопіі Савана Турынскай плашчаніцы, выкананай на палатне памерам 436 см на 110 см. Яе прывезлі з Італіі, дзе ў Турынскім кафедральным саборы прайшла багаслужба з нагоды перадачы копіі Савана беларускаму народу. На сённяшні дзень у свеце ёсць усяго толькі шэсць такіх копій.

**На здымку:** працэсія з нагоды ўрачыстасці.

**Фота Аляксандра Талочкі, БелТА.**

## *Вітаўту Кіпелю - 75*

***Вельмішаноўны спадар Вітаўт!***

*Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ад усяго сэрца віншуе Вас, вядомага ў свеце дзеяча навукі і культуры на эміграцыі, з 75-годдзем ад дня народзінаў, жадае плёну на ніве грамадскай і асветніцкай дзейнасці ды жыццёвага аптымізму на доўгія леты. Ваш унёсак у вывучэнне, захаванне і пашырэнне літаратурных набыткаў беларусаў замежжа, што воляй лёсу апынуліся на чужыне, заслугоўвае самай высокай узнагароды.*

*Таварыства бязмежна ўдзячнае Вам за разуменне і пастаянную падтрымку. Дзякуй Богу і лёсу, што нягледзячы на адлегласць, мы -- разам.*

*Хай Вашае сэрца саграваe шчырая любоў суайчыннікаў на Радзіме.*

*З верай у незалежную Беларусь*

***Старшыня ТБМ***

***імя Ф. Скарыны . Алег Трусаў.***



## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Ідзе падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на другое паўгоддзе 2002 года. Кожны чытач, безумоўна, заўважыў, што ў другім квартале газета стало тонкай, стала парушацца перыядычнасць выхаду. А ўся справа ў тым, што калі раней фінансавыя справы газеты былі дрэннымі, то зараз яны проста нулявыя. Гэты нумар выходзіць ў крэдыт і толькі дзякуючы таму, што запазычанасць за два папярэднія мы выплацілі грашыма, ахвяраванымі спадаром* ***Алесем Арэшкам з Бельгіі.***

*Далейшае існаванне газеты цалкам залежыць ад падпісной кампаніі. Мы просім усе арганізацыі ТБМ правесці падпіску на газету "Наша слова" для бібліятэк і школаў сваіх гарадоў і раёнаў. Але асабліва мы просім, каб кожны сябар ТБМ падпісаўся сам і падпісаў свайго блізкага і знаёмага. Толькі разам мы можам выжыць, але на тое мы і арганізацыя.*

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2002 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

**Кошт** падпіскі **2934** руб. / пераадрасоўкі руб. Колькасць камплектаў **1**

На 2002 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

### Грамадская ініцыятыва да юбілею паэта

Улучна юбілею народнага песняра Янкі Купалы Таварыства беларускаі мовы пры падтрымцы дабрадзеяў выпусціла мастацкі каляндарык і плакат (дызайн мастака Ігара Марачкіна) на 2002-2003 год з выявай паэта на фоне касцёла Святога Роха і словамі з верша "Ворагам Беларушчыны".

Каляндарык і плакат можна знайсці ў сядзібе Таварыства (Менск, вул. Румянцава, 13) і Літаратурным музеі Янкі Купалы.




### Гімназія № 14

**аб'яўляе прыём у падрыхт., 1- 10 кл. на 2002 – 2003 н.г.**

**Прапануем:**

- навучанне і выхаванне на аснове сучасных тэхналогій;
- паглыбленае вывучэнне анг. мовы з падр. кл.:
- вывучэнне другой замежнай (нямецкай) мовы з 6-га кл.;
- вывучэнне ў 7-8 кл. адной са славянскіх моў: балгарскай, польскай, сербскай;
- філалагічны профіль з 10-га кл.;
- фізіка-матэматычны профіль з 10-га кл.;
- навучанне асновам кампутарнай пісьменнасці (з пачатковай школы);
- заняткі ў спартыўным комплексе і басейне;
- заняткі ў музычных гуртках: фартэпіяна, баян, гармонік, цымбалы, дудка, скрыпка;
- на базе гімназіі працуе ўзорны фальклёрны ансамбль "Дударыкі".

Наш адрас: 220107, Менск, вул. Васняцова, д.10.

Тэл.: 245-01-33, 245-04-51, 245-21-37.

### Віншуем з днём народзінаў сяброў ТБМ, чэрвенскіх імяніннікаў:

**Міхася Асмыковіча, Валянціну Белавусаву, Ірыну Гайдук, Аляксея Галіча, Сяржука Давыдчука, Васіля Жалдака, Марыю Ігнатовіч, Ірыну Краўчук, Зміцера Краўчука, Паўла Курдо, Алега Лабатага, Паўла Ласкутнікава, Уладзіміра Мароза, Алеся Нішчыка, Вячаслава Шчарбачэню, Сяргея Юркевіча, Алеся Яскевіча.**

***Сакратарыят ТБМ.***





Васіль Якавенка

# Каса на камень, або канцэрт з удзелам нашай рады

*Коні грызуцца, калі кармушка пустая. А што?!. У жывата свой імпэт.*

І, мусіць, невыпадкова, прычапілася да мяне гэтая прыказка, бо звадкі ў апараце нашага творчага саюза якраз і пачаліся ў вялікі пост, калі сем-восем месяцаў супрацоўнікі СП не атрымлівалі зарплаты, тойсёй і пачаў абвінавачваць у гэтым Іпатаву. Некаторыя тэхнічныя адзінкі, а гэта — людзі, агорнутыя вялікім сумам, маркотай, адчаем, мусілі шукаць іншае месца працы. Намацаў сабе іншую пасаду непадалёку ад будынка Дома літаратара і адзін з сакратароў праўлення. Пралегла расколіна ў сакрытарыяце, і яшчэ больш узмацніліся агульны напал жарсцей і сумятня.

Я ніяк не мог уцяміць, што там адбываецца і быў моцна здзіўлены, калі даведаўся пра разлад. Я часта прыходзіў у гэты будынак, бо з сярэдзіны мінулага года разам са старшынёй Саюза Вольгай Іпатавай узяліся за стварэнне аргкамітэта і падрыхтоўку міжнароднага сімпозіюма, які мае прайсці ў ліпені 2002 года пад эгідай ЮНЕСКА. У Менску... На тэму: "Разнастайнасць моў і культур у канстэксце глабалізацыі". Дыскусія мае быць важная і нават знакавая для пісьменніцкай арганізацыі; гэта адчулі ўжо многія літаратары, падаўшыя заяўкі на свой удзел у "круглых сталах", што па розных пытаннях пачалі ладзіцца перад сімпозіюмам, дый на ўдзел у самім сімпозіюме. Пры падтрымцы міністэрстваў культуры, адукацыі, інфармацыі, дзяржаўных універсітэтаў і грамадскіх арганізацый разгортваецца шырокая падрыхтоўка да гэтай падзеі ў культурным жыцці. Адам Мальдзіс разам з паплечнікамі з Асацыяцыі беларусістаў свету і Пэн-цэнтра ўзяў на сябе падрыхтоўку "круглага стала" па тэрарызму, ягоных вытоках, які пройдзе ў рамках сімпозіюма. Іпатава, добра разумеючы значэнне справы, за якую ўзяўся Саюз, пастаянна наводзіць кантакты ў вярхах і ўсяляк дапамагае вырашаць вузлавыя пытанні. Асаблівасць моманту ў тым, што ў падрыхтоўцы сімпозіюма спалучаюцца намаганні дзяржаўных структур і грамадскіх аб'яднанняў пры вядучай ролі пісьменнікаў. Факт даволі яскравы; у ім праяўляюцца якасці пакуль недастаткова развітыя ў нас, а менавіта грамадзянская супольнасць, яе дабрачынныя сілы, і гэта варта сабе ўсвядоміць.

А што да апарата Саюза, то яму і асабіста Іпатавай, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, удалося падрыхтаваць і правесці напрыканцы мінулага года семінар перакладчыкаў з удзелам калег з-за мяжы, падрыхтаваць кніжку паэзіі для выдання на літоўскай мове, правесці прэзентацыю кніг беларускай лірыкі на балгарскай мове ... Зразумела, былі і іншыя справы. Ці ж бо дарэмна Вольга Міхайлаўна шмат часу праводзіла ў гутарках са сваімі намеснікамі В. Праўдзіным, Н. Гальпяровічам, В. Мачульскім. Па маіх назіраннях, у працы апарата Саюза быў дух і стыль добразычлівасці, згоды ажно да апошняга часу, пакуль не выбухнуў гэты канфлікт, нечаканы, неспасціжымы ў многім. Толькі цяпер думаецца, што тады я не разгледзеў ягоных першапрычын або камянёў падводных.

Уважаючы на катастрафічную для апарата Саюза сітуацыю (абрэзана фінансавая падтрымка), Іпатава разам са сваімі намеснікамі напісалі і паслалі ва ўсе высокія службы каля дзесятка лістоў, прычым, рассылалі звароты не па аднаму разу, і большасць іх падпісала сама Вольга Міхайлаўна, а некаторыя пісаў і падпісваў першы намеснік Праўдзін — адказу ні адкуль не было; узнікалі размовы аб "выплаце зарплаты" тэхперсаналу Саюза маёмасцю, напрыклад, кампутарамі... Жальбы бралі за сэрца. У лепшым, а дакладней, больш трывалым становішчы аказваліся намеснікі, як што Праўдзіну і Гальпяровічу, а таксама Каршукову, кансультанту, старшыня Саюза выстаралася на бліжэйшы год стыпендыі. Пра сябе, праўда, не ставіла пытання... І то сказаць: Праўдзін, юрыст, былы маёр міліцыі, і Мачульскі, юрыст, былы ваенны пракурор, атрымлівалі добрыя пенсіі.

Дзеля справядлівасці варта сказаць, што ў той татальна пагрозлівай эканамічнай сітуацыі — пры набліжэнні калапса вытворчасці, асабліва ў вёсцы, ва ўмовах, калі мужы дзяржаўныя дзіркай дзірку спрабуюць прыкрыць, — фінансавання з бюджэту быў пазбаўлены не адзін Саюз пісьменнікаў, але і такія аб'яднанні, як Чырвоны Крыж або Асацыяцыя інвалідаў... Іншая справа, што па духу і сваім прызначэнні гэта розныя згуртаванні.

Маўчанне зацягвалася, і Вольга Міхайлаўна ў стане трывогі пачала пісаць і друкаваць лісты ў "ЛіМе" — за 4 студзеня 2002 года і далей, тым самым адкрыта інфармуючы грамадскасць сваёй краіны і свету аб наўмысным ці ненаўмысным — хто ведае? — удушэнні Саюза беларускіх пісьменнікаў. І, можа, якраз таму ўжо 12 студзеня пайшла дакладная на імя прэзідэнта А. Лукашэнкі, якой ставілася за неабходнасць дзяржаўная фінансавая падтрымка асобных грамадскіх аб'яднанняў, у тым ліку і Саюза беларускіх пісьменнікаў. У дакладной запісцы, між іншым, тлустым шрыфтам былі вызначаны словы: *"Учитывая конструктивную позицию нынешнего руководства Союза белорусских писателей во взаимоотношениях с государством*, — і далей, — полагаем выплатить этому творческому союзу задолженность за 2001 год по заработной плате и оказать финансовую поддержку в 2002 году в размере 41,4 млн. рублей, предусмотрев сокращение численности штатных работников..." Гэты дакумент Вользе Міхайлаўне прыслалі толькі ў сакавіку і папрасілі яе тэрмінова скласці праект на фінансаванне Саюза, з чаго вынікала, што форма ўзаемаадносін з Мінфінам будзе мяняцца — фінансуюцца канкрэтныя справы.

Яе намеснікі Праўдзін і Мачульскі акурат святкавалі Дзень міліцыі, а Гальпяровіч ужо пакінуў працу ў Саюзе, таму Вольга Міхайлаўна прыцягнула да справы літкансультанта Ірыну Качаткову, і яны на скорую руку склалі і падалі праект. Намеснікі ў гэтай справе аказаліся як бы абыдзенымі. Увогуле яны паймелі думку, што далей болей старшыня Саюза не калегіяльна, а індывідуальна вырашае справы, і, калі прыспеў гэты выпадак, былі ў рожках з Вольгай Міхайлаўнай ды ўжо склікалі на вайну з ёй сакратарыят.

Згодна з ідэяй праекта ёй, старшыні Саюза, Іпатавай належала скараціць усіх супрацоўнікаў апарата і далей набраць іх па кантракту пад гэты праект.

На наступны дзень саму форму загада аб скарачэнні надыктаваў ёй юрыст і намеснік В. Мачульскі. Скарачаліся ўвогуле ўсе пасады, усяго — 24,5 адзінкі...

Надрукавалі паперчыну і далі з ёй пазнаёміцца тым нямногім, хто яшчэ працаваў. Распісаліся... Усчынаўся фурор. Праўдзін, чынячы подпіс, пісьмова зазначыў, што пытанне па намесніках павінна вырашаць рада, і з ім у душы была згодна Іпатава, таму і не падпісвала трывожны загад.

Сфармавалася канчаткова групоўка супраціву Вользе Міхайлаўне — яе намеснікі і, у дадатак, — кансультант Каршукоў. Толькі нельга было вініць іх ва ўсім; варта было шукаць і сваю віну: чаго яны, аднак, арганічна не ўспрымалі ў ёй, дык гэта годнай паставы, нескаронасці перад уладамі, калі гэтак можна сказаць, адстойванне сваіх поглядаў, прынцыпаў, пазіцый, што атаясамлівалася ёй з адстойваннем інтарэсаў пісьменніцкай арганізацыі, за якімі ўжо палягалі інтарэсы народа. Яна, чуеце, далёка зайшла ў сваіх (ажно пяці!) публікацыях у "ЛіМе" і гэта напалохала Віктара Аляксандравіча. Праўда, не столькі напалохала, колькі парадавала: ішоў новы козыр яму ў рукі, якім можна будзе пабіць яе карту. Ён той чалавек, які праз усё жыццё прайшоў, нідзе не замуціўшы стаячай вады, які склаўся як падручны ўлад: ён, Праўдзін, маючы за прынцып дагаджаць начальству, увогуле — уладам, напэўна, быў моцна шакаваны пазіцыяй супрацьстаяння, якая выяўлялася ў публіцыстычных, крытычных, адважных артыкулах Іпатавай. Віктар Аляксандравіч на падобны апраметны крок ніколі не пайшоў бы, і яму здавалася, напэўна, што наогул ніхто з разумных людзей такое не ўчвэрыў бы, таму і лічыў, што Іпатава, як старшыня Саюза, ужо спяклася. Як чалавек набожны, веруючы ён лічыў, няйначай, што прабіў яго час — сам Бог паклікаў яго выправіць становішча ў Саюзе пісьменнікаў, а дзеля гэтага яму належыць узвысіцца над старшынёй і дзейнічаць самастойна. Наважыўся падпісваць за старшыню дакументы. Натхняла ж яго меркаванне: дзейнічае Праўдзін так, як вышэйшым уладам патрэбна. (З нейкага часу ён амаль фізічна адчуў, як вызваліўся ад абрыдлых яму комплексаў Тулягі, гэтага пестунца К. Крапівы, і вольны цяпер заваёўваць сабе новую жыццёвую прастору; важнічаючы, ён пачаў гаварыць пра сябе ў трэцяй асобе.)

Мачульскі цягнуў за ім, бо Іпатава папікала яго падробкай дакументаў і пагражала наладзіць аўдытарскую праверку, каб высветліць стан гаспадарчых і фінансавых спраў у Доме творчасці пісьменнікаў "Іслач" — разабрацца самой ва ўсім ёй не ставала ўмення і часу; а Каршукоў па духу і ўзроўню мыслення — копія Праўдзіна. І вось яны тайна ад Іпатавай збіраюць сакратарыят Саюза. Вольга Міхайлаўна, выпадкова даведаўшыся, прыйшла на пасяджэнне таксама. З расказаў пісьменнікаў спрабую ўявіць, што там адбывалася.

З боку Праўдзіна і Мачульскага сыплюцца абвінавачванні ў супрацоўніцтве яе з апазіцыяй, бо выходзіла, на іх думку, што яна і сама "апазіцыянерка", паколькі з уладамі спрэчкі вядзе, — абвінавачванні ў адміністраванні — маўляў, "усіх звольніла"...

І тут, адчуваючы няпэўнасць і фальш у гэтых заявах, сакратары звяртаюцца да Н. Гальпяровіча: "Якія ў вас адносіны са старшынёй?"

Той муляецца і адказвае: "Стала менш раіцца з намі". І далей распавядае пра індывідуалізм...

ІПАТАВА: А чаму, калі ёсць такія заўвагі, нельга іх тут абмеркаваць? Навошта нам выносіць нашы разборкі на раду?

ГАЛЬПЯРОВІЧ: Непрыманне адзін аднаго ў нас далёка зайшло. Я за скліканне рады.

ЗУЁНАК: Што дарэмна бударажыць людзей? Можа, вы памірыцеся?..

ПРАЎДЗІН: Хай пытанне вырашыць з'езд!

ЗУЁНАК: Ого! Не?.. Тады хай рада рашае пытанне аб намесніках.

ІПАТАВА: Усе выкладзеныя тут абвінавачванні — суцэльныя правакацыі і хлусня. З мухі слана робіце, шаноўныя! Напрыклад, калі я жартам звярнулася да Праўдзіна з просьбай, каб ён мяне шанаваў, бо, калі памру альбо збягу, як Някляеў, за мяжу, яму давядзецца валачы на сабе ўвесь гэты воз праблем...

ПРАЎДЗІН: Не, вы і па духу дысідэнтка. Вы якшаецеся з Пэн-цэнтрам, а яны там вядома, чые агенты.

НЕХТА: Правільна! Яна можа выказваць свае думкі скрозь, як захоча, і не параіўшыся з намі. Нам усім вялікая абраза, калі яна і намеснікаў схільна перавесці на кантракт. Таму заслугоўвае адстаўкі! Старшынёй Саюза павінен быць нехта больш адухоўлены.

ЯШЧЭ НЕХТА: Яна не саромеецца выступаць і ў апазіцыйнай прэсе і ў "Советской Белоруссии"...За мяжу адна за ўсіх ездзіць. Тлумачыць, што за свой кошт. Але ці апраўдвае яе гэта?

ГАЛЬПЯРОВІЧ: У нервовай альбо выбуховай сітуацыі да ладу не дойдзеш. *(Ціха выходзіць з пакоя).*

НАВУМОВІЧ: Да рады нам, шаноўныя, звяртацца не выпадае. Вольга Міхайлаўна чалавек мужны і на працягу гэтых скрушлівых месяцаў трымала Саюз, і, можа, такая баявая, нават дзёрзкая тактыка была правільная. Улады пайшлі насустрач, і вось бачыце, адкрываецца магчымасць фінансавання.

ПІСЬМЯНКОЎ *(просячы):* Лепей пашукаць міру ды злагады. Можа, не трэба рады, га?..

ПРАЎДЗІН *(пачуваючы сябе на кані)*: Не! Толькі рада! І за ёй — толькі з'езд! Даўно пара змясціць Іпатаву. Праўдзін не збіраецца працаваць на Пэн-цэнтр. Бачыце, яны і тут ваду муцяць!

ІПАТАВА: Цалкам беспадстаўная заява!

ЗУЁНАК *(мякка, уніклі ва)*: Ну, можа, не трэба так ужо пра Пэн-цэнтр... І пра з'езд...

ПРАЎДЗІН, МАЧУЛЬСКІ *(у адзін голас)*: Трэба! Галасуйце!

БОЛЬШАСЦЬ: Ну, калі так... *(Уздымаюць рукі. Кульмінацыя.)*

ПРАЎДЗІН: Значыць, прагаласавалі за раду. Недзе ў 20-х чыслах...

І вось на радзе 19 сакавіка, бадай, усё паўтараецца рэфрэнам.

ПРАЎДЗІН *(намагаецца паказаць справу так, што старшыня саюза Іпатава ўжо ліквідавала саюз, што яна да яго абыякавая і працуе толькі на сябе або толькі на апазіцыйныя структуры).* Даверу да яе ні ў кога няма. З ёй няма перспектывы. Яна палітызуе саюз. Праўдзін зрабіў тое... Праўдзін сходзіў туды.. Праўдзін прыйшоў сюды...

ЗАКОННІКАЎ: Усё гэта пустое, і справы не тут вырашаюцца! Не падумайце, што я супраць саюза, не. Але не трэба забываць, што творчы саюз, як ён ёсць, быў створаны на патрэбу савецкай улады. Некаторыя, калі не многія з нас, яшчэ і сёння жывуць тымі звычкамі.

...ІПАТАВА *(трымаючыся знешне спакойна і годна):* Можа, я і дапусціла нейкія памылкі...(*Спрабуе далей выкрыць ўвесь абсурд высунутых супраць яе абвінавачванняў).*

Адухоўленая, энергічная, у блакітным касцюме з біжутэрыяй, падабранай у тон, і карункавым шалем на плячах, яна ў атачэнні рады нічым не нагадвала Папялушку, над якой чыняць здзек мужыкі, называючыя сябе юрыстамі. Наадварот, яна мела нязломную сілу, ведала сабе кошт — выглядала ў тым асяроддзі пярлінай.

І далей, беручы слова, К. Цвірка, А. Мальдзіс, С. Панізнік, А. Лойка і іншыя, за выключэннем, бадай, М. Мятліцкага, падтрымалі яе, выказваючыся супраць з'езда і дапускаючы ў думках з'езд толькі па творчых пытаннях, але ж і гэтакі з'езд — што ён цяпер вырашыць?

І вось зноў той дзіўны, няўцямны фінал, што і на сакратарыяце.

ПРАЎДЗІН *(апраметныя закіды якога толькі што выкрылі, — як ні ў чым не бывала):* Цяпер прагаласуем: хто за правядзенне з'езда ў маі?

БОЛЬШАСЦЬ: Ну, калі так.. *(Уздымаюць рукі...)*

Затым абмяркоўваюць: хто зробіць даклад аб сучасным стане беларускай літаратуры і літаратурных выданняў.

Іпатава адмаўляецца, тлумачачы гэта тым, што занята падрыхтоўкай сімпозіюма. Прафесійныя крытыкі адмаўляюцца таксама — яны не бачаць магчымасці ў такі кароткі тэрмін асэнсаваць творчы працэс ды зрабіць аналіз. Таму за даклад бярэцца Праўдзін, якога з пасады адказнага сакратара часопіса "Нёман" выцягнулі ў саюз, канешне, не дзеля звадак або прафанацыі справы ў саюзе. І тым не менш... Прэцэдэнт у наяўнасці.

Вядома, у Саюзе пісьменнікаў могуць быць і ёсць людзі рознага палітычнага і творчага малюнка, ухілу, і гэта нармальна. Адно, каб нацыянальны творчы саюз трымаўся, усе ягоныя прыхільнікі і сябры павінны мець агульны клопат і, найперш, клопат пра нацыянальную літаратуру, мову і культуру, пра духоўныя набыткі народа. Толькі так здарылася, што стрыжань гэтых прабелм і мае быць абмеркаваны на Міжнародным сімпозіюме ў Менску, у ліпені гэтага года.

Тады дзеля чаго, скажыце, у выбуховым парадку прызначаецца з'езд, на правядзенне якога нават грошай няма? Спадар В. Праўдзін, не жадаючы лічыцца з рашэннем рады, заявіў у друку, што зноў займецца пераніцоўкай кіраўніцтва Саюза: "Гэта пытанне буду ўзнімаць асабіста я, бо лічу, што яно самае актуальнае" ("Звязда" за 21.03.2002). І вось такое аблудліва пляцецца пры папусціцельстве сакратарыята і рады ў той час, калі менавіта канструктыўна і плённа пачалі складвацца ўзаемаадносіны Саюза з дзяржаўнымі структурамі.

Мяне асабіста трывожыць, ці не адцягне з'езд увагу і значныя сілы ад падрыхтоўкі Міжнароднага сімпозіюма, які акурат можа быць больш плённым і больш выніковым за з'езд?

На мой погляд, рашэнне рады ні палітычна, ні тактычна не абгрунтаванае і прывядзе адно да балагану на з'ездзе. А калі балаган дапусціць, ці не стане майскі наш з'езд апошнім з'ездам для Саюза пісьменнікаў?

